## Заўважаныя памылкі друку

Старонка 3, другая калёнка, 2 радок зьверху. Надрукована „удар кулацкай дзейнасьці“, трэба чытаць „удар па кулацкай дзейнасьці“.

Старонка 11, першая калёнка, 14 радок зьверху. Надрукована „узмацніўшым сваё супраціўленьне бязьлітаснай і яраснай барацьбе“ трэба чытаць „узмацніўшым сваё супраціўленьне, у бязьлітаснай і яраснай барацьбе“.

Старонка 29, другая калёнка, 3 радок зьверху. Надрукована „Сваячасовая задача“, трэба чытаць „Сваячасовая здача“.

Зак. № 3189.

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!



# ЗА ЛЕНІНСКУЮ ВУЧОБУ

ОРГАН КУЛЬТПРОПУ ЦК КП(б)Б

№ 10

СЬНЕЖАНЬ 1932

ВЫХОДЗІЦЬ 2 РАЗЫ Ў МЕСЯЦ



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ПАРТМАССЭКТАР
МЕНСК 1932



Літпраўка *А. Зіміонка*
Карэкт. *У. Ляўданскага*
Тэхрэдактар *І. Мілешка*
Здана ў друкарню 23-XII—32 г.
Падпісана да друку 19/II—33 г.
Набрана брыгадай *Бамара*
Адказ. кар. друк. *Варатынская*

## ЗЬМЕСТ

*Стар.*






Заказ № 3189. 5.000 (2 арк). Ун. Галоўлітбелу № а 1348.

Друкарня імя Сталіна.

А. Залескі.

# РАЗЬМЕРКАВАНЬНЕ КОЛГАСНЫХ ДАХОДАЎ—ЧАРГОВАЕ ЗЬВЯНО Ў СПРАВЕ АРГАНІЗАЦЫЙНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎМАЦАВАНЬНЯ КОЛГАСАЎ

Бягучы сельска-гаспадарчы год, заключны год першай пяцігодкі, канчаецца. Гэты год характарызуецца значнымі дасягненьнямі ў справе калгаснага будаўніцтва і арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў у іх арцельнай форме. Правільная арганізацыя працы на аснове сталых вытворчых брыгад, будаўніцтва новых МТС, укараненьне зьдзельшчыны, барацьба з дробна-буржуазнай ураўнілаўкай, абязьлічкай, укараненьне агро-зоотэхнічных мерапрыемстваў у колгасную вытворчасьць, разьвіцьцё колгаснага гандлю садзейнічала значнаму росту, як натуральнай, так і грашовай частак даходу колгасаў.

Зараз колгасы ўсутыч падыходзяць да канчатковага разьмеркаваньня даходаў і ўраджаю за 1932 г.

„Разьмеркаваньне даходаў у колгасах будзе праходзіць ва ўмовах кулацкага супраціўленьня і імкненьня кулацтва правесьці разьмеркаваньне па ядоцкім, ураўнілаўскім „прынцыпе“. Задача партыйных і савецкіх арганізацый—арганізаваць масы на рашучы ўдар кулацкай дзейнасьці і разгарнуць вакол разьмеркаваньня даходаў шырокую масава-палітычную работу з прыцягненьнем колгаснага актыву і мас колгасьнікаў“ (пастанова ЦК КП(б)Б „Аб разьмеркаваньні даходаў у колгасах“ за 1932 г.).

І на гэтым вучастку соцыялістычнага будаўніцтва, як і на вучастку ўсіх відаў загатовак (а справа правільнага разьмеркаваньня даходаў і ўраджаю ў колгасах знаходзіцца ў самай шчыльнай сувязі са справай выкананьня колгасамі сваіх абавязкаў перад пролетарскай дзяржавай), кулак абвастрае сваё супраціўленьне, імкнецца ўзмацніць свой уплыў сярод паасобных груп адсталых колгасьнікаў, дзейнічае праз сваю агентуру ў асобе пралезшых у паасобныя зьвеньні савецкага, загатоўчага, колгаснага апарату і нават у партыю кулацкіх элемэнтаў, перараджэнцаў, правых і „левых“ опортуністаў і прымірэнцаў да іх.

Разьмеркаваньне колгасных даходаў—кампанія надзвычай вялі-

кай палітычнай важнасьці. Зусім зразумела, што па выніках разьмеркаваньня колгасных даходаў ня толькі колгасьнік, а і аднаасобнік будзе вызначаць сваё далейшыя адносіны да колгасаў. Правільнае разьмеркаваньне даходаў у колгасах па колькасьці і якасьці працы, укладзенай кожным колгасьнікам, зьяўляецца асноўным стымулам падвышэньня зацікаўленасьці кожнага паасобнага колгасьніка ў разьвіцьці і расшырэньні гаспадаркі колгасаў. Толькі на аснове правільнага разьмеркаваньня ўраджаю і даходаў з посьпехам будзе дасягнута далейшае замацаваньне сталых вытворчых брыгад, далейшае ўкараненьне зьдзельшчыны ва ўсіх галінах гаспадаркі колгасаў і вырашэньне важнейшай задачы—падвышэньня ўраджайнасьці колгасных палёў.

У аснову разьмеркаваньня даходаў колгасаў 1932 г. павінны быць пакладзены наступныя важнейшыя задачы: першая—гэта поўнае і своечасовае выкананьне кожным колгасам сваіх абавязкаў перад пролетарскай дзяржавай, другая—забесьпячэньне далейшага росту гаспадаркі колгасу і яе далейшы ўздым на падставе соцыялістычнага ўзнаўленьня, і трэцяя—гэта павялічэньне разьмераў даходу, атрымліваемых колгасьнікамі на рукі па працаднёх.

У пастанове СНК СССР і ЦК УсеКП(б) ад 5 ліпеня г. г. „аб уборачнай кампаніі“ указана, што „пасьля сканчэньня здачы продукцыі паводле ўстаноўленага пляну дзяржаўных загатовак раньніх збожжавых культур і пасьля вызначэньня насенных фондаў, бяз усякай затрымкі колгасьнікам павінна быць выдана праўленьнем колгасу ўся астатняя частка харчовага і кармовага збожжа, якое ім прыпадае“. Ёсьць рад колгасаў, якія пры актыўным удзеле зацікаўленых у хутчэйшым разьмеркаваньні даходаў колгасьнікаў ужо скончылі абмалот і здачу хлеба дзяржаве па пляне загатовак і поўнасьцю вярнулі атрыманую імі ад дзяржавы насенную пазычку. Вопыт перадавых колгасаў павінны ўлічыць усе астатнія колгасы, якія зацягваюць абмалот і здачу хлеба і тым самым затрымліваюць канчатковае разьмеркаваньне даходаў і ўраджаю сярод колгасьнікаў. Указаньне СНК і ЦК аб тым, што поўнае выкананьне пляну дзяржаўных загатовак павінна быць праведзена ў першую чаргу і аб тым, што свабодны гандаль збожжам можа праводзіцца „толькі ў тым выпадку, калі па рэспубліцы плян збожжазагатовак будзе выкананы ў цэлым і па культурах“ (пастанова IV пленуму ЦК КП(б)Б) павінна быць шырока растлумачана колгасным масам.

Той колгас, які-б разьмеркаваў даходы, папярэдне ня выканаўшы поўнасьцю плян дзяржаўных загатовак,—стаў-бы на шлях кулака і аказаўся-б яго верным саюзьнікам у барацьбе супроць колгаснага будаўніцтва. Выканаўшы плян дзяржаўных загатовак, кожны колгас павінен поўнасьцю забясьпечыць насеньнем веснавы пасеўны клін запроектаванай плошчы па паасобных культурах. Пры чым гэта задача можа лічыцца выкананай толькі тады, калі патрэбнае насеньне кожнай культуры будзе адсартавана, зважана

засыпана ў адпаведных памяшканьнях і здана па акту вызначанаму для догляду і аховы колгасьніку. Неабходна паставіць задачай, каб на разьмеркаваньне па працаднёх прыпадала ня менш 50—60 проц. агуловага даходу і ва ўсякім выпадку ня менш таго, што атрымана колгасьнікамі на рукі ў мінулым годзе. Тут неабходна рашуча стаць на шлях скарачэньня адміністрацыйна-ўпраўленчых выдаткаў, скарачэньня шматлікіх фондаў, зьніжэньня кошту новага будаўніцтва, зьнішчэньня страт пры апрацоўцы ільну і канапель і больш поўнага скарыстаньня ўсёй наяўнай рабочай сілы ў колгасах на работах па вывазцы лесу, дарожным будаўніцтве і іншых адыходных работах.

Вынікі праведзенага авансаваньня колгасьнікаў у гэтым годзе ў залік разьмеркаваньня даходаў з усёй яскравасьцю гавораць аб тым, што ў параўнаньні з мінулым годам значна вырасьлі даходы колгасаў і ўжо ў парадку авансаваньня колгасьнікі атрымалі па сваіх працаднёх значную колькасьць прадуктаў і грошай. Так, напрыклад, у колгасе „Новы быт“ Менскага раёну, сям'я колгасьніка *Кіселя*, у якой 2 працаздольных і 3 непрацаздольных, у парадку авансаваньня атрымала па выпрацаваных да 15/IX 1932 г. 377 працадні 42 пуды хлеба. Калгас поўнасьцю і датэрмінова выканаў плян хлебазагатовак і прыступіў да канчатковага разьмеркаваньня ўраджаю паміж колгасьнікамі.

Папярэднія ітогі гаспадарчай дзейнасьці колгасаў з усёй выразнасьцю паказваюць, што ў тых колгасах, дзе ў сапраўднасьці праводзілася работа па ўкараненьні агротэхнікі ў сельскую гаспадарку, значна ўзрасла ўраджайнасьць і вырас даход колгасаў.

Так, напрыклад, у ільнаводчым колгасе „Ленінскі шлях“ Дрысенскага раёну, які дабіўся ўраджаю ў 2,75 *ц* ільнасемені з 1 *га* супроць 1,70 *ц* у мінулым годзе; 10 *ц* ільнатрасты з 1 *га* супроць 4,1 *ц*; 100 *ц* бульбы з 1 *га* супроць 84 *ц*; 7,5 *ц* жыта супроць 4,68 *ц*, 7,5 *ц* аўса супроць 4,78 *ц* і 25 *ц* канюшыннага сена супроць 15,8 *ц*, атрыманых з 1 *га* ў мінулым годзе, агульны даход за 1932 г. вырас супроць мінулага году ў 3,5 разы. Колгас поўнасьцю выконвае ўстаноўлены для яго плян загатовак усіх відаў, забясьпечвае поўнасьцю засыпку неабходных насенных і фуражных фондаў, пасьпяхова разгортвае колгасны гандаль і разьмяркоўвае значную частку агульнага даходу паміж колгасьнікамі. На кожны працадзень у сярэднім па колгасе прыпадае продуктамі і грашыма на суму 1 р. 96 к., у тым ліку 5 5 *кг* зерневых, 11,8 *кг* кармоў, 4 *кг* іншых продуктаў і 1 р. 16 к. грашыма.

Ня менш паказальнымі зьяўляюцца ітогі башавіцкай работы за высокую продукцыйнасьць колгаснай жывёлагадоўлі і ўплыў яе на рост даходаў колгасаў і колгасьнікаў; так, напрыклад, сьвінагадоўчая таварная фэрма комуны „Верны шлях“ Дрысенскага раёну, пасьпяхова перамагаючы цяжкасьці вясны, недахоп кармоў, утрымліваючы сьвіней у неабсталяваных старых будынках, дабілася вялікіх рэзультатаў. Ад 21 сьвінаматкі выгадавана 153 парасят, што дае ў сярэднім 7,3 парасят на 1 сьвінаматку. Маючы ста-

да ў 59 дарослых сьвінаматак, комуна здае ў парадку дзяржаўных загатовак 82 *ц* сьвініны. Даход комуны ад асноўнай галіны гаспадаркі—сьвінагадоўлі значна вырас супроць мінулага году. Комунары пасьпяхова разьвіваюць іншыя галіны сваёй гаспадаркі, падводзяць моцную кармавую базу пад соцыялістычную жывёлагадоўлю, сваячасова і і поўнасьцю выконваюць пляны загатовак, шырока разгортваюць колгасны гандаль і ў выніку разьмеркаваньня ўраджаю атрымліваюць на кожны працадзень 1,5 *кг* зерневых, 1,5 *кг* бульбы і 1 руб. 65 к. грашыма.

Значна ўзрасьлі даходы колгасаў і дабрабыт колгасьнікаў і ў выніку шырокага разгортваньня колгаснага гандлю продуктамі сельскай гаспадаркі; так, напрыклад, колгас „Найер Лэбэн“ Віцебскага раёну разьмяркоўвае паміж колгасьнікамі, апрача продуктаў, па 8 р. грашыма на кожны працадзень. У колгасе імя Дзяржынскага Менскага раёну, сям'я колгасьніка Трушкевіча Пётры толькі ў парадку авансаваньня ў залік разьмеркаваньня даходаў атрымала па сваіх працаднёх 1800 руб. грашыма, 2,4 *ц* жыта, 3 *ц* ячменю і 4,2 тоны бульбы.

Аднак, было-б памылковым, калі-б мы думалі, што гэтыя колгасы і рад іншых колгасаў БССР дабіліся посьпехаў у сваёй рабоце ў парадку самацёку. Гэтыя посьпехі атрыманы ў барацьбе з кулацкім уплывам і пры шырокім удзеле колгасных мас, у рашучай барацьбе за замацаваньне сталай вытворчай брыгады, як асноўнага зьвяна колгаснай вытворчасьці, за правільнае разьмеркаваньне колгасных даходаў, за поўнае правядзеньне ўсіх мерапрыемстваў, забясьпечваючых павышэньне ўраджайнасьці колгасных палёў, за павялічэньне даходнасьці колгаснай гаспадаркі.

Даныя з месц гавораць аб тым, што даходы і ўраджай разьмяркоўваецца ў асноўным па працаднёх, шырокія колгасныя масы ўсьвядомілі значэньне разьмеркаваньня даходаў і ўраджаю ў залежнасьці ад колькасьці і якасьці працы. Працадзень заваяваў сабе моцны аўторытэт. Гэта, вядома, вялікае дасягненьне ў справе організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў. Аднак, пры правядзеньні авансаваньня ў колгасах у гэтым годзе, у значнай частцы колгасаў наглядаліся памылкі і скажэньні клясавай лініі. Так, пры выдачы авансаў сенам, ня гледзячы на сваячасовыя і ясныя ўказаньні НКЗ і Колгасцэнтру аб парадку авансаваньня, у радзе месц сена выдавалі па дварох, каровах і едаках, пры чым у некаторых мясцох ня толькі ня было належнай барацьбы з практыкай кулацкайураўнілаўкі ў гэтым пытаньні, а, наадварот, некаторыя кіруючыя работнікі раёнаў гэтую лінію праводзілі самі.

Напрыклад, эагадчыкам Хойніцкага райза было дано ўказаньне праўленьням колгасаў раёну аб выдзяленьні сенажаці на кожны колгасны двор да $^2/_3$ *га*. Праўленьне калгасу „Асоавіяхім“ Хойніцкага раёну па пытаньні наконт авансаваньня колгасьнікаў сенам вынесла 6 жніўня г. г. пастанову наступнага зьместу: „Забясьпечыць членаў колгасу сенажацьцю на неабагуленую

жывёлу па 1 *га* на гаспадарку. Адвод даручыць старшыні колгасу т. Дубікоўскаму Язэпу не пазьней 8/VIII—32 г“. У многіх колгасах авансы збожжам і грашыма выдаваліся па патрэбах, або ўсім пароўну на сям‘ю. Вядома, гэтым патуралі рвачу і гультаю, які скарыстоўваў кулацкі мэтод разьмеркаваньня; ён за гэта стаяў гарой, каб за кошт чужой працы, за кошт працы добрасумленных колгасьнікаў пажывіцца, больш урваць не працуючы.

Цяпер, калі ўсе колгасы БССР уступаюць у найбольш адказны пэрыод разьмеркаваньня даходаў, дапушчаныя палітычныя памылкі пры авансаваньні ў гэтым годзе, а таксама і памылкі мінулага году павінны быць улічаны. справу разьмеркаваньня даходаў у колгасах павінны ўзяць пад сваё непасрэднае кіраўніцтва раённыя партыйныя і зямельна-колгасныя органы, а таксама і сельпартячэйкі. Асаблівая роля ў гэтым пытаньні ўскладаецца на кожнага вясковага партыйца і камсамольца, на работнікаў раённых зямельна-калгасных органаў і МТС.

Есьць рад фактаў, калі паасобныя партыйцы і камсамольцы ў час разьмеркаваньня даходаў аказваюцца на повадзе ў кулака, аказваюцца праваднікамі рвацкіх, антыдзяржаўных тэндэнцый, становяцца барацьбітамі за дробнабуржуазную, кулацкую ўраўнілаўку, патураюць безгаспадарчасьці і разбазарваньню колгаснага збожжа, разбазарваньню працадзён у колгасах. „Пленум падкрэсьлівае, што кулацкае супраціўленьне, кулацкая работа ў некаторых колгасах і сярод працоўных аднаасобнікаў маглі мець пэўны ўплыў толькі ў выніку страты клясавай пільнасьці асобнымі сельскімі парторганізацыямі, засьмечанасьці апошніх клясава-варожымі элемэнтамі, з прычыны разлажэньня і змыканьня комуністаў, якія стаяць на чале асобных загатоўчых огранізацый, сельсаветаў, колгасаў, з кулацтвам і няпрыняцьця сваячасовых мер з боку раённых парторганізацый“ (Асіповічы, Магілеў, Быхаў—„Заготзбожжа“, Слуцак—„Плодагародніна“ і г. д.) (рэз. IV пленуму ЦК КП(б)Б).

Ёсьць рад фактаў, калі паасобныя работнікі сельсаветаў і раённых устаноў прабуюць належнае кіраўніцтва і дапамогу колгасам падмяніць голым адміністраваньнем і камандваньнем. Задача раённага кіраўніцтва—ведаць сапраўдны гаспадарчы стан кожнага колгасу, задача партыйных ячэек—ведаць кожную брыгаду, выявіць працу лепшых брыгад і брыгадзіраў.

Побач з адказьнейшай работай па выкананьні ўсіх відаў загатовак, па бальшавіцкай падрыхтоўцы веснавой сяўбы, па ўздыме ўраджайнасьці—барацьба за правільнае разьмеркаваньне ўраджаю і даходаў зьяўляецца праверкай баяздольнасьці кожнай вясковай ячэйкі, яе клясавай пільнасьці і рашучасьці ў барацьбе з клясавым ворагам.

У гэтай барацьбе кожная партыйная ячэйка павінна рашуча ачышчаць сябе ад кулацкіх агентаў, ад опортуністаў усіх колераў, павінна ў процэсе гэтай барацьбы выхоўваць кандыдатаў і маладых членаў партыі, выхоўваць беспартыйны колгасны актыў.

Разьмеркаваньне даходаў і ўраджаю, згодна даных дырэктыў, павінна быць скончана ва ўсіх колгасах да 15 студзеня 1933 г. і не пазьней лютага 1933 г. павінен быць скончана выдача колгасьнікам усіх даходаў па працаднёх. Адсюль задача, якая зараз стаіць перад зямельна-колгаснымі органамі як у цэнтры, так і на мясцох— забясьпечыць у колгасах поўны падлік усяго сабранага ўраджаю і атрыманых даходаў, выпрацаваных кожнай брыгадай і кожным колгасьнікам працадзён, а таксама складаньне плянаў разьмеркаваньня даходаў. На дапамогу колгасам у выкананьні гэтай работы павінен быць прыцягнут рахунковы апарат сельскіх і раённых установ, вясковае настаўніцтва і іншыя работнікі, знаёмыя з гэтым.

Аднак, трэба рашуча папярэдзіць ад выпадкаў практыкі мінулага году, калі падлікі колгасных даходаў і працадзён, а таксама складаньне плянаў разьмеркаваньня рабіліся ва многіх мясцох паасобнымі работнікамі габінэтна, бяз удзелу ня толькі колгасных мас, але нават і саміх праўленьняў колгасаў. Непасрэднае правядзеньне гэтай работы ляжыць на праўленьні колгасаў і саміх колгасьніках.

Адлічэньне ў непадзельны фонд, якое павінна рабіцца ў кожным колгасе і якое прызначаецца на капітальнае будаўніцтва і набыцьцё жывёлы і машын, мае надзвычай вялікае значэньне ў справе далейшага ўмацаваньня колгасаў; таму пры разьмеркаваньні даходаў трэба з усёй уважлівасьцю аднесьціся да выдзяленьня гэтых адлічэньняў.

Неабходна рашуча адхіліць практыку вылучэньня колгасам шматлікіх фондаў, у многіх выпадках садзейнічаючых ураўнілаўцы ў разьмеркаваньні даходаў і ўкрываньню ад хлебаздачы. Стварэньне шматлікіх фондаў зьяўляецца адным з мэтадаў барацьбы кулацкіх антысавецкіх элемэнтаў супроць арганіз. гасп. умацаваньня колгасаў, выкананьня колгасамі сваіх абавязкаў перад дзяржавай і палепшаньня дабрабыту калгасьнікаў.

Ёсьць факты, што ў радзе раёнаў распаўсюджана практыка, калі раённыя і сельскія арганізацыі навязваюць колгасам забесьпячэньне продуктамі розных асоб, не працуючых у колгасе. Некаторыя дырэктары МТС (Лагойск, Крупкі) прымацавалі работнікаў да паасобных колгасаў, запрапанаваўшы апошнім забясьпечваць гэтых работнікаў продуктамі харчаваньня па пэўных нормах і цьвёрдых цэнах. Каралішчанскі сельсавет Менскага раёну запрапанаваў колгасам адпускаць продукты харчаваньня па цьвёрдым цэнам членам сельсавету, работнікам коопэрацыі і іншым служачым, не працуючым на колгаснай вытворчасьці, у тых-жа разьмерах, колькі атрымліваюць колгасьнікі. Або такі факт, калі Прылепскі сельсавет Койданаўскага раёну абавязаў старшыню праўленьня колгасу налічваць працадні сельскім выканаўцам і членам сельсавету-колгасьнікам за работу, ня зьвязаную з колгасам; у выніку гэтага распараджэньня кожны месяц налічваецца кожнаму члену сель-

савету і сельскаму выканаўцу па 15 працадзён. Такія ганебныя факты павінны быць рашуча зьнішчаны, з прыцягненьнем да адказнасьці тых, хто ня хоча выконваць дырэктывы партыі і ўраду.

У пастанове ЦКК УсеКП(б) ад 9/VIII-32 г. па гэтым пытаньні сказана наступнае: „Катэгорычна забараніць раённым і вясковым партыйным, савецкім і колгасным організацыям адносіць на кошт колгасаў, утрыманьне службовых асоб, упаўнаважаных з камандыраваных з гэтых організацый і прапанаваць зьняць з аплаты за кошт колгасу ўсіх асоб, ня маючых непасрэдных адносін да колгаснай вытворчасьці (сельвыканаўцы, работнікі коопэрацыі, члены сельсавету, калі яны не працуюць у колгаснай вытворчасьці)... Грамадзкая праца і гаспадарча-палітычныя кампаніі павінны, як правіла, праводзіцца колгасьнікамі ў парадку грамадзкай нагрузкі, бяз налічэньня працадзён“.

Неабходна яшчэ спыніцца на значна разбухшых абслугоўваючых апаратах многіх колгасаў. Як вядома, гэты абслугоўваючы пэрсонал ня ўдзельнічае ў колгаснай вытворчасьці, а між тым, атрымлівае з агульнага ліку значную колькасьць працадзён і гэтым самым зьніжае як кошт самога працадня, так і даход колгасьніка. Так, напрыклад, у колгасе „імя Будзённага“ Заслаўскага раёну абслугоўваючага пэрсоналу 26 чалавек, у той час, як у колгасе толькі 136 гаспадарак і 1400 *га* зямлі. Зусім зразумела, што такі разбухшы апарат зьяўляецца нахлебнікам колгасьнікаў, працуючых непасрэдна на вытворчасьці. Колгасы павінны рашуча стаць на шлях скарачэньня колькасьці апаратчыкаў з тым, каб адміністрацыйна-ўпраўленчыя выдаткі складалі ня больш як $1^1/_2$—2 проц. агульнага даходу у буйных колгасах і 2—3 проц. у дробных колгасах. Побач з гэтым павінна быць поўнасьцю праведзена ў жыцьцё ўказаньне Колгасцэнтру і НКЗ СССР ад 11/VII аб тым, што кіруючы і абслугоўваючы склад колгасьнікаў (члены праўленьняў, загадчыкі гаспадаркі, вартаўнікі, рахункаводы і іншыя) не павінны атрымліваць натурай больш тэй колькасьці продуктаў, якую атрымліваюць добрасумленна працуючыя колгасьнікі. Астатняя колькасьць працадзён, выпрацаваных кіруючым і абслугоўваючым складам колгасьнікаў, павінны аплачвацца грашыма. Барацьба за якасьць работы, за далейшае ўмацаваньне сталай вытворчай брыгады, як асноўнага зьвяна ў падвышэньні ўраджайнасьці колгасных палёў і ў організацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў, зьяўляецца важнейшай задачай. Трэба дабіцца поўнага выкананьня пры разьмеркаваньні даходаў пастановы СНК і ЦК аб павышэньні і зьніжэньні ацэнкі працадня або колькасьці працадзён для брыгад і брыгадзіраў у межах ад 10 да 20 проц. у залежнасьці ад якасьці работы. Соцыялістычныя формы працы ў сельскай гаспадарцы павінны на практыцы паказаць больш высокую яе продукцыйнасьць і ў зьвязку з гэтым павялічэньне ўраджайнасьці колгасных палёў, павялічэньне продукцыйнасьці жывёлы і атрыманьне больших





даходаў колгасамі і колгасьнікамі. Ад таго, наколькі правільна будзе зроблена ацэнка працадня ў кожнай брыгадзе па якасьці яе работы і будзе залежаць посьпех барацьбы за высокі ўраджай, за організацыйнагаспадарчае ўмацаваньне колгасаў.

На што яшчэ павінна быць зьвернута ўвага пры разьмеркаваньні даходаў—гэта на сваячасовую выдачу колгасьнікам належачых ім па пляне разьмеркаваньня натуральных і грашовых даходаў. Раённыя зямельныя і колгасныя органы і МТС павінны ўзяць гэтае пытаньне па свой неаслабны нагляд. Праўленьні колгасаў і паасобныя старшыні колгасаў, якія будуць затрымліваць сваячасовую выдачу даходаў колгасьнікам, павінны прыцягвацца да адказнасьці.

Пляны разьмеркаваньня даходаў павінны абавязкова зацьвярджацца агульнымі сходамі колгасьнікаў. Трэба забясьпечыць такое становішча, каб кожны колгасьнік і колгасьніца ведалі кожную стацыю прыбыткаў і выдаткаў колгасу, каб перад ім быў разгорнуты малюнак гадавой гаспадарчай дзейнасьці колгасу, каб па выніках сваёй работы колгасьнікі маглі меркаваць аб тых шырокіх перавагах, якія дае колектыўная гаспадарка, і аб пэрспэктывах колгаснага будаўніцтва, Трэба на аснове разгорнутай крытыкі і самакрытыкі выявіць недахопы, якія меліся ў процэсе гадавой работы і на вопыце гэтага гаспадарчага году мобілізаваць шырокія колгасныя масы на барацьбу за ўмацаваньне і расшырэньне гаспадаркі колгасу, за высокі ўраджай, за поўнае выкананьне ўсіх мерапрыемстваў, вызначаемых на 1933 г.—першы год другой пяцігодкі. Правядзеньнем шырокай масавай работы вакол кампаніі разьмеркаваньня даходаў у колгасах трэба яшчэ больш згурпаваць шырокія колгасныя масы вакол КП(б)Б для рашучага адпору кулацкім элемэнтам, работа якіх накіравана на зрыў правільнага разьмеркаваньня даходаў у колгасах на зрыў колгаснага будаўніцтва.

---

Ц. Гурвіч

# ПРОПАГАНДЫСТ — ЦЭНТРАЛЬНАЯ ФІГУРА МАРКСЫСЦКА-ЛЕНІНСКАГА ВЫХАВАНЬНЯ

Баяздольнасьць партыі, парторганізацый, паасобных комуністаў у барацьбе за выкананьне задач соцыялістычнага будаўніцтва залежыць ад палітычнай узброенасьці комуністаў, ад іх рэволюцыйнай пільнасьці, ад здольнасьці змагацца за генэральную лінію партыі, палітычна ўзначаліць, павесьці за сабой масы колгасьнікаў і беспартыйных рабочых, у барацьбе з клясавым ворагам, узмацніўшым сваё супраціўленьне бязьлітаснай і яраснай барацьбе з кулаком, з кулацкімі ўплывамі, з кулацкай агентурай у партыі, з опортунізмамі розных колераў, з правым опортунізмам, як з галоўнай небясьпекай, з малейшымі праявамі перараджэнства, славесна-дэкларацыйных адносін да лініі партыі, двурушніцтва, буржуазнага нацыяналізму, з прымірэнцтвам і гнілым лібэралізмам.

Чыстка партыйных радоў, якая набліжаецца, павінна зьявіцца магутным вагаром у справе паляпшэньня якасьці марксысцка-ленінскага выхаваньня, якасьці работы па ідэйнаму ўзбраеньню комуністаў.

„Кожны комуніст павінен ясна ўяўляць клясавыя зрухі, якія адбываюцца ў краіне, складаны пераплёт клясавай барацьбы і высока трымаць сьцяг ваяўнічага бальшавізму. Ён абавязан сваячасова выкрываць новыя манэўры, новую тактыку клясавых ворагаў, опортуністаў, двурушнікаў, перараджэнцаў і ашуканцаў партыі, даваць ім бязьлітасны адпор, умацоўваць жалезную дысцыпліну ў радох партыі, упарта і настойліва працаваць над соцыялістычным перавыхаваньнем мас.

Парторганізацыі павінны забясьпечыць рашучы паварот у павышэньні якасьці марксысцка-ленінскага выхаваньня, у справе ідэйнага ўзбраеньняў камуністаў.

Барацьба за якасьць партыйнага выхаваньня ўпіраецца ў пытаньне аб жывых яе носьбітах—у пытаньне аб пропагандысцкіх кадрах партыі. Партыйна вытрыманы, тэорэтычна падрыхтаваны і мэтодычна вопытны прапагандыст—гэта асноўнае зьвяно марксысцка-ленінскага выхаваньня парторганізацый. Словы Леніна аб тым, што партыя павінна сваіх пропагандыстаў „спэцыялізаваць, скарыстоўваць цалкам і берагчы сугуба“, напісаныя ім яшчэ ў 1902 г. („Ліст да таварышоў аб нашых організацыйных задачах“) атрымліваюць цяпер, у пэрыод будаўніцтва соцыялізму, калі гэтая справа стала справай мільёнаў, гіганцкае, нязьмернае значэньне.

Справа ідзе не аб адзінках і дзесятках, справа ідзе аб падрыхтоўцы соцень і тысяч пропагандыстаў. Даволі прывесьці некаторыя лічбы: калі ў 1927 г. сеткай партасьветы на Беларусі было ахоплена 19555 чал., у 1930 г.—60—65 тыс., то па контрольных лічбах на 32—33 г. намечан ахоп каля 100 тыс. чалавек (павялічэньне больш, чым у 5 раз). Калі ў 1927 г. мы мелі ўсяго 799 пропагандыстаў, то цяпер лік патрэбных па папярэдніх намётках пропагандыстаў складае 3,5 тыс. чал. (павялічэньне больш, чым у 4 разы).

Армія пропагандыстаў партыі папаўняецца новымі маладымі кадрамі, расьце колькасьць нізавых рабочых пропагандыстаў. Побач з некаторым зьніжэньнем проценту пропагандыстаў з вышэйшай адукацыяй расьце процант пропагандыстаў з сярэдняй і асабліва ніжэйшай адукацыяй (процант з сярэдняй адукацыяй: у 1927 г.—19,1, у 1932 г.—27,6, з ніжэйшай адукацыяй: у 1927 г.—16,2, у 1932 г.—48,1).

Справа ідзе аб вырошчваньні новых пропагандысцкіх кадраў, справа ідзе аб тым, каб выхаваць атрады ваяўнічых ленінцаў, якія былі-б здольнымі ўзбройваць масы членаў партыі, беспартыйных рабочых, колгасьнікаў і моладзь марксысцка-ленінскай тэорыяй у барацьбе з контррэволюцыйным трацкізмам, ў усякімі праяўленьнямі опортунізму, з правым апортунізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, з гнілым лібэралізмамі прымірэнцтвам, з кулацкімі ўплывамі на паасобныя няўстойлівыя элемэнты партыі, на паасобныя групы рабочых, колгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў.

Справа ідзе аб тым, каб пропагандыст партыі быў-бы здольны ўздымаць кожнае канкрэтнае пытаньне штодзеннай практыкі соцбудаўніцтва на прынцыповую бальшавіцкую вышыню, арганізоўваць масы ў барацьбе за кожны крок на шляху да поўнай перамогі соцыялізму, у барацьбе за канчатковую мэту пролетарыяту.

Агляд раду прадпрыемстваў Менску і Віцебску паказаў, што справа сыстэматычнай падрыхтоўкі пропагандыстаў пастаўлена надзвычай дрэнна. Няма жывога інструктажу пропагандыстаў, няма кантролю за іх работай, вельмі нездавальняюча пастаўлена мэтодычнае кіраўніцтва. Сапраўды, ці дапушчальны такія зьявішчы: пропагандыст ВСПШ яч. службы экплёатацыі (Менск) „даказвае“ слухачам, што ў Расіі ня было свайго нацыянальнага капіталізму, што народніцтва было зьвязана з марксызмам-ленінізмам, які „раней быў навукай, а цяпер азначае будаўніцтва соцыялізму“, што ідэолёгам „Зямлі і Волі“ быў Герцан, а Чарнышэўскі выдаваў „Колокол“, што тэрор—гэта мэтод меншавіцкі і т. д. На заводзе Гомсельмаш рабочы Гаварунаў на сваё запытаньне: „ці не зьяўляецца трацкісцкая контрабанда Слуцкага справай рэвізіі ленінізму, замены яго трацкізмам“ атрымаў адказ: „Ленінізм зьяўляецца настолькі моцным, што рэвізаваць яго нельга ніякім чынам. Слуцкі не рэвізаваў Леніна, а сказаў толькі аб тым, што Ленін да вайны ня быў бальшавіком“.

На занятках ВСПШ скурзаводу Віцебску на выступленьне слухача аб тым, што „Бунд выстаўляў лёзунг культурна-нацыянальнай аўтаноміі“, кіраўнік адказвае:

„Ленін выступаў супроць бундаўцаў, таму, што яны выстаўлялі сябе гегемонам рабочага руху. Ня ведаю, ці высоўвалі бундаўцы лёзунг культурна-нацыянальнай аўтаноміі, бо Ленін заўсёды сам быў за тое, каб даць магчымасьць усім разьвіваць сваю культуру“.

Адзін з кіраўнікоў Жлобінскай партшколы на запытаньне „чаму ў капіталістычных краінах крызіс перавытворчасьці“, адказвае: „Таму, што існуе Савецкі саюз“, а другі на запытаньне, „чым тлумачацца цяжкасьці нашага росту“—адказвае. „У нас цяжкасьці таму, што пасьля вайны пашло шпаркае размнажэньне людзей і павялічыліся патрэбнасьці“.

Пропагандыст заводу „Комінтэрн“ (Барысаў) заяўляе: „Першы расійскі марксыст—гэта Плеханаў. Ён арганізаваў партыю“.

І такая не партыйная, а антыпартыйная пропаганда, такое пратаскванае трацкісцкай кантрабанды буржуазна-нацыяналістычных установак, яўна меншавіцкіх канцэпцый падаецца слухачам, як тэорыя марксызму-ленінізму. Хто-ж нясе адказнасьць за такое „выхаваньне“? У чым прычына такога становішча? У тым, што партыйныя камітэты, ячэйкі ня ведаюць твару сваіх прапагандыстаў і дзякуючы гэтаму не даюць належнага адпору такой шкоднай клясава-варожай прапагандзе, не займаліся пытаньнем якасьці партвучобы, а ў большасьці сваёй абмяжоўваліся камплектаваньнем школ. У тым, што не арганізоўвалі, не дапамагалі, не стваралі адпаведных умоў пропагандысту для падняцьця свайго тэорэтычнага ўзроўню, не праявілі дастатковай бальшавіцкай пільнасьці у падборы прапагандыстаў. У тым, што адсутнічала сыстэматычная, штодзенная праверка работы пропагандыстаў і падрыхтоўка іх.

Справа падрыхтоўкі пропагандыстаў ня стала яшчэ справай партыйных комітэтаў у цэлым. Мы маем цэлы рад фактаў, калі райкомы партыі замест зьбіраньня пропагандысціх кадраў разбазарваюць іх. Колькасьць штатных пропагандыстаў яшчэ далёка не задавальняе патрэбы ў іх, а між тым Быхаўскі РК КП(б)Б, напрыклад, свайго штатнага пропагандыста т. Цухно зрабіў сакратаром ячэйкі; Копыльскі РК перавёў на іншую працу штатнага пропагандыста Курбацкага. Такія-ж факты мы наглядаем у Касьцюковіцкім раёне, Слуцкім і інш. Ёсьць выпадкі (і іх ня мала), калі штатных пропагандыстаў бесьперапынна адрываюць на рознага роду кампаніі, зусім ня лічачыся з умовамі і задачамі іх работы.

Усё гэта стварае такія абставіны, калі і самі пропагандысты недаацэньваюць значэньня пропагандысцкай работы і ў некаторай сваёй частцы імкнуцца пакінуць яе.

Курсавая падрыхтоўка рабочых і колгасных пропагандыстаў праходзіць у большасьці выпадкаў насьпех, кампанейскі і яўна нездавальняюча, па-першае, таму што райкомы партыі і асабліва сельскія, адкладвалі падрыхтоўку пропагандыстаў на летні пэрыод, пэрыод міжпапар'я, лічачы, што гэты пэрыод зьяўляецца больш вольным часам ад сельскагаспадарчых работ: на справе-ж міжпапар'е было таксама загружана работамі па касьбе, падрыхтоўцы да ўборкі і інш. Адклад-

валі на восень, самую гарачую пару с-г. работ, у сувязі з чым курсы зрываліся або праводзіліся насьпех, з-за недахвату часу.

Па-другое, партячэйкі да пасылкі на курсы падыходзілі формальна, пасылаючы таварышоў палітычна непадрыхтаваных, якія ніколі не займаліся прапработай, часта кандыдатаў партыі і нават комсамольцаў, а Райкомы залічвалі іх на курсы без праверкі якасьці, бо ня было часу, трэба было іх хутчэй падрыхтаваць і забясьпечыць школы пропагандыстамі, у выніку чаго рад скончыўшых курсы пропагандыстаў або зусім не скарыстоўваецца, або са сваёй работай не спраўляецца.

Курсавая падрыхтоўка пропагандыстаў павінна праходзіць не кампанейскі, а насіць сыстэматычны характар. Падрыхтоўваць пропагандыстаў трэба на працягу ўсяго году, скарыстоўваючы зімні час для падрыхтоўкі новых пропагандыстаў, з больш вялікім тэрмінам навучаньня (2-3 месяцы), а летні час для перападрыхтоўкі працуючых пропагандыстаў з больш кароткім тэрмінам навучаньня. Гэтым мы забясьпечым неперарыўнасьць партвучобы і сваячасовасьць падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі пропагандыстаў.

Адбор рабочых і колгасных пропагандыстаў павінен праходзіць сыстэматычна і надзвычай прадумана. Пропагандыст, які выдзяляецца на курсы, павінен быць папярэдня праверан з пункту гледжаньня яго партыйнай вытрыманасьці, палітычнай падрыхтаванасьці і схільнасьці да прапагандысцкай работы. Няверна думаць, што 2—3 месяцы вучобы на курсах—і рабочы пропагандыст падрыхтаваны. Найбольш здольных і палітычна падрыхтаваных таварышоў трэба рыхтаваць да пропагандысцкай работы ўжо ў ВСПШ, у марксыцка-ленінскіх гурткох, у вячэрніх камвузах. Трэба, каб кіраўнікі гэтых школ указвалі гэтым таварышам дадатковую літаратуру з клясыкаў марксызму-ленінізму, каб па асобных пытаньнях праводзілі з імі дадатковыя заняткі. Таварышоў, якіх ячэйка і РК лічыць магчымым рыхтаваць да пропагандысцкай работы, неабходна рашуча і максымальна разгружаць ад іншых партыйных нагрузак, а тыя партнагрузкі, якія ім даручаюцца, павінны ўвязвацца з задачай падрыхтоўкі іх, як пропагандыстаў (організацыя і правядзеньне гутарак з рабочымі ў час абедзенага перапынку, галоснага чытаньня і т. д.).

Курсы зьяўляюцца найбольш концэнтраванай формай падрыхтоўкі рабочага пропагандыста і бязумоўна адыгрываюць рашаючую ролю ў гэтай падрыхтоўцы.

Асноўнай умовай пасьпяховасьці работы курсаў зьяўляецца самая дэтальная, прадуманая і добраякасная падрыхтоўка іх, як з пункту гледжаньня організацыі работы на саміх курсах, забясьпечаньня іх усімі неабходнымі навучальнымі дапаможнікамі, прыладамі, матэрыяльнымі ўмовамі, так і з пункту гледжаньня падбору кіраўнікоў курсаў, а таксама ўсяго таго фактычнага мясцовага матэрыялу, які патрэбен рабочаму пропагандысту ў яго рабоце (матарыялы аб становішчы і практычных задачах колгасаў, прадпрыемстваў, саўгасаў, транспортных устаноў і т. д.).

Падрыхтоўка рабочага прапагандыста павінна сыстэматычна паўтарацца і пасьля сканчэньня аднамесячных або двухмесячных курсаў. Справа ідзе аб сталай і штодзённай дапамозе прапагандысту ў яго працы.

Асноўнай формай такой сыстэматычнай падрыхтоўкі пазаштатніх пропагандыстаў, асабліва рабочых і колгасных зьяўляюцца пропсэмінары. Яны арганізуюцца пры буйных прадпрыемствах, дзе ёсьць кампактная група пропагандыстаў і куставыя пропсэмінары ў сельскіх раёнах, дзе нельга організаваць сэмінару на прадпрыемстве, у саўгасе, колгасе. Пропсэмінары аб'ядноўваюць пропагандыстаў па тыпах школ і складаюцца з аднародных па ўзроўню разьвіцьця асоб. Сэмінар павінен аб'яднаць невялікія групы прапагандыстаў(8–10 чал.).

Неабходна дабіцца такога становішча, каб кіраўніцтва сэмінарам зьяўлялася асноўнай і адказьнейшай нагрузкай вылучаных на гэтую работу таварышоў.

Пропсэмінары займаюцца, як правіла, ня менш аднаго разу ў дэкаду. У сельскіх раёнах, дзе па ўмовах работы цяжка склікаць сельскіх прапагандыстаў, рэкомэндуецца організоўваць куставыя сэмінары і праводзіць заняткі 2 разы ў месяц, склікаючы пропагандыстаў на цэлы дзень або на два дні.

Задача сэмінара рыхтаваць асноўную масу прапагандыстаў як з боку зьместу вучобы (павышэньне тэорэтычнага ўзроўню), так і з боку мэтодыкі заняткаў.

Кожны пропагандыст прыходзіць на заняткі сэмінару ўжо падрыхтаваным у асноўным да правядзеньня заняткаў па данай тэме са слухачамі сваёй школы, гуртка, прачытаўшы мінімум указанай літаратуры і склаўшы чарнавы плян правядзеньня заняткаў. Заняткі сэмінару павінны праводзіцца за некалькі дзён да заняткаў у школе, каб пропагандыст мог унесьці неабходныя корэктывы ў свой плян, сур'ёзна яго прадумаць на аснове заняткаў сэмінару.

Апошнія, як правіла, складаюцца з 2-х частак:

1) Кіраўнік сэмінару разгортвае абгаварэньне чарговай тэмы заняткаў, высьвятляючы шляхам шырокай гутаркі стрыжнёвыя пытаньні тэмы. Неабходна, каб пропагандыст, канчаючы заняткі, высьвятляў усё яму незразумелае, каб па ўсіх асноўных пытаньнях атрымаў зусім выразныя і чоткія партыйныя ўстаноўкі. Па найбольш складаных пытаньнях програмы мэтазгодна організоўваць лекцыі кіраўнікоў сэмінару. У сэмінарах з больш падрыхтаванымі пропагандыстамі можна часам практыкаваць даклады паасобных удзельнікаў сэмінару.

2) Другая частка заняткаў сэмінару—гэта абгаварэньне пытаньняў мэтодыкі: разгляд рабочых плянаў і запісаў паасобных удзельнікаў сэмінару, абгаварэньне таго, як правёў заняткі той ці іншы пропагандыст, устанаўленьне пэўнага мэтодычнага адзінства ў прапрацоўцы данай тэмы.

Тут мы падыходзім да такой формы кіраўніцтва пропагандыстамі, як непасрэдны жывы інструктаж на прадпрыемстве. Сэмінар пропагандыстаў або РК КП(б)Б вылучае аднаго ці групу кваліфікаваных таварышоў, якія прысутнічаюць на занятках і тут-жа пасьля заняткаў па

сьвежых сьлядох зьбіраюць прапагандыстаў, стараст школ і ўсебакова аналізуюць праведзеныя заняткі, аказваючы таварыскую і непасрэдную дапамогу прапагандысту. Дадатным бокам такога жывога інструктажу зьяўляецца тое, што ён дае магчымасьць прыстасаваць формы дапамогі пропагандысту да яго індывідуальных асаблівасьцяй (узровень разьвіцьця, мэтадычны вопыт і інш.).

Такой-жа гібкай формай кіраўніцтва пропагандыстамі зьяўляецца і консультацыя (індывідуальная і групавая) пры партыйных габінэтах. У дакладна вызначаныя дні пропагандыст павінен мець магчымасьць атрымаць консультацыю па сваім прадмеце. Консультант дапамагае пропагандысту і па пытаньнях мэтодыкі заняткаў: складаньне пляну заняткаў, падбор даведкавага, ілюстрацыйнага матэрыялу і інш.

Але першай умовай правільнай і паглыблена організаванай консультацыі зьяўляецца належная пастаноўка работы ў саміх партыйных габінэтах.

Партгабінэт—гэта мобілізацыйны пункт пропагандыста. Там павінна быць сконцэнтравана: літаратура для кіраўнікоў па кожнай тэме заняткаў, заданьні, мэтодычныя дапаможнікі, часопісы (у першую чаргу пропагандысцкія), бібліографія важнейшых артыкулаў па пытаньнях бягучай політыкі партыі, экономікі, гісторыі, ленінізму ў пэрыодычнай літаратуры часопісах, якія атрымліваюцца габінэтамі) і газэтах. Партгабінэт павінен організаваць падбор даведкавага мясцовага матэрыялу, неабходнага для правядзеньня заняткаў: трэба завесьці асобную папку на кожнага пропагандыста раёну з улікам колькасьці праведзеных і сарваных заняткаў, з улікам таго, на колькі пропагандысту ўдалося пастаноўкай работы ў школе павысіць або зьнізіць наведвальнасьць слухачоў, з улікам якасьці праведзеных пропагандыстам заняткаў (ацэнка таварышоў, якія прысутнічалі на занятках па даручэньні Культпропу РК або кіраўніка сэмінару, выказваньні паасобных слухачоў аб працы пропагандыста). Партгабінэт павінен быць актыўным удзельнікам у організацыі соцспаборніцтва паміж пропагандыстамі, праверцы яго выкананьня і асьвятленьні ходу вучобы ў друку мясцовым і цэнтральным. Партгабінэт організуе для пропагандыстаў тэорэтычныя даклады і лекцыі, актыўна ўдзельнічае ў падрыхтоўцы, скліканьні і правядзеньні нарад пропагандыстаў разам са слухачамі па пытаньнях організацыі якасьці вучобы, рыхтуе вучэбна-мэтодычны матэрыял для рознага роду курсаў, якія праводзяцца ў раёне.

Чарговыя задачы ў галіне марксыцска-ленінскага выхаваньня—гэта павышэньне яе якасьці, політычнай завостранасьці, гэта організацыя работы, конкрэтнае і опэратыўнае кіраўніцтва ёй. У выкананьні гэтай задачы пропагандыст зьяўляецца цэнтральнай фігурай.

Іменна цяпер неабходна да пропагандыста прымяніць лёзунг, высунуты Леніным у адносінах да народнага настаўніка: „пропагандыст павінен стаяць на такой вышыні, на якой ён ніколі дагэтуль не стаяў“.

---

## ЯК Я ПРАВОДЖУ ЗАНЯТКІ

Калі крупскі РК КП(б)Б вылучыў мяне пропагандыстам і паслаў у Хацюхоўскую кандыдацкую школу праводзіць заняткі, мной перш за ўсё была праведзена падрыхтоўчая работа. Пытаньне партвучобы было абгаворана на адкрытым партыйным сходзе і пасьля пастановы яч. КП(б)Б і запісу ўсіх комуністаў на 100 проц. ячэйка павяла растлумачальную работу сярод колгасьнікаў і аднаасобнікаў беднякоў і серадкякоў, і вярбоўку іх у школу.

Школа налічвае 52 слухачы, з іх членаў і кандыдатаў 20 чал., комсамольцаў 4 чалавекі і беспартыйных 28 чал.

Школа пачала працаваць два разы ў тыдзень у панядзелак і пятніцу па 2 гадзіны, але слухачы пастанавілі працаваць 3 гадз. для лепшай прапрацоўкі пытаньняў і ўсваеньня марксызму-ленінізму. Заняткі распачаты з 1 кастрычніка і ідуць бесьперабойна.

Заняткі праводзяцца паводле програмы кандыдацкай школы для вёскі. Мэтод заняткаў—разгорнутая гутарка.

Прапрацаваны наступныя тэмы:

1) Два сьветы—дзьве сыстэмы: капіталізм і соцыялізм.

2) Праз дыктатуру пролетарыяту да комунізму.

3) Пастанова ЦК КП(б)Б аб становішчы сярод жанчын вылучэнак. („Зьвязда" 1 кастрычніка).

4) Комуністычная партыя— перадавы атрад рабочай клясы.

5) Програма і статут УсеКП(б).

6) Пастанова ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб задачах колгаснай ячэйкі.

7) Пастанова СНК СССР і ЦК УсеКП(б) аб новым законе па мясазагатоўках.

Да заняткаў падрыхтоўваюся акуратна. Згодна тэмы падбіраю літаратуру, бо пакуль што падручнікаў няма. Выкарыстоўваю програму Комінтэрну. „Пытаньні ленінізму" Сталіна, Леніна, „Дзяржава і рэволюцыя" і што-небудзь з „Дыялектычнага матэрыялізму",—хрэст. Адарацкага, конспэктую важнейшыя мысьлі і выходзячы з гэтага намячаю цэлы рад пытаньняў. Пасьля прыступаем да колектыўнай распрацоўкі, у выглядзе разгорнутай гутаркі, а потым падагульваю ўсю работу, увязваючы тэорыю з практыкай.

Вынікі працы школы добрыя, мяркуючы па зацікаўленасьці слухачоў, іх наведваньні і актыўным удзеле ў гаспадарча-палітычных кампаніях. Хацюхоўскі сельсавет па Крупскім раёне ідзе на другім месцы і занесен на чырвоную дошку, чаму значна садзейнічае актыўны ўдзел у правядзеньні важнейшых рашэньняў партыі слухачамі школы.

Але вынікі нашай работы былі-б яшчэ лепшымі, калі-б наша школа мела падручнікі і пісьмовыя прылады, бо ў нас на 52 слухачы іх зусім няма.

Пропагандыст кандыдацкай школы Хацюхоўскай яч. КП(б)Б Крупскага раёну—*Дзінчукоў А. А.*

# БОЛЬШ УВАГІ ПРАПАГАНДЫСТУ

Па першае я хачу выказаць сваю думку наконт журналу і важнасьці яго выхаду ў сьвет. Працуючы на пасадзе райпрапагандыста і будучы ўвесь час непасрэдна зьвязаным з гэтай работай, я вельмі задаволен выхадам гэтага журналу ў сьвет, бо ён шмат дапамагае ва ўсёй рабоце па марксысцка-ленінскім выхаваньні партработнікаў.

Маё пажаданьне для журналу і работнікаў рэдакцыі: неабходна адвесьці больш месца вопыту раёнаў, каб можна было ўлічыць памылкі, і добры вопыт работы перанесьці ва ўсю сыстэму партасьветы, а таксама неабходна адвесьці старонку для пытаньняў і адказаў прапагандыстаў і слухачоў школ.

Далей хачу падзяліцца сваім вопытам работы. У маім раёне ў 1932 навучальным годзе было 50 об'ектаў, куды ўваходзяць школы і гурткі. Зімой заняткі ішлі добра, у асноўным наведваньне было акуратным, зрываў заняткаў ня было, але пад вясну гэтыя гурткі і школы пачалі таяць, так што летам удалося ўтрымаць толькі палавіну іх; пры гэтым заняткі праходзілі ненормальна, слаба наведваліся, былі частыя зрывы, назіралася вяласьць, з прычыны далёкай адлегласьці палявых і начных летніх работ слухачы часта адсутнічалі.

Пару слоў аб партгабінэце, як аб раённым цэнтры партыйнай асьветы. Партгабінэт мае досыць добрую літаратуру, творы Леніна, К. Маркса і інш., але адносіны кіруючых работнікаў да партгабінэту зьяўляюцца нездавальняючымі: памяшканьне партгабінэту яны ператварылі ў дом сходаў, нарад і т. д. Нарада старшынь сельсаветаў—у партгабінэце, старшынь камсодаў—таксама, упаўнаважаных РВК—таксама, мясцкому т-ва Чырвонага Крыжу—тут-жа. Усе гэтыя нарады, сходы ператвараюць габінэт у праходны двор. Намечаныя пляны работы габінэту па лініі партасьветы зрываюцца.

Наогул адносіны да партвучобы з боку паасобных партыйцаў нікуды ня варты. Часта можна чуць гутаркі аб тым, што няма часу займацца вучобай, што ёсьць больш важныя неадкладныя справы: уборка, сяўба, загатоўкі і т. д.

З боку раённых адказных работнікаў таксама мала аддаецца ўвагі партвучобе: усе прымацаваныя да сельскіх ячэек, будучы ў тэй або іншай ячэйцы, не дапамагаюць ячэйцы наладзіць вучобу, лічаць, што гэта ня іх справа, што гэта справа райпрапагандыста.

Аб прапагандыстах раённых і сельскіх. У раёне два прапагандысты, адзін з іх загадчык партгабінэту. Аклад у іх нізкі. Снабжаюцца кепска. Прыходзіцца пеша хадзіць у ячэйку за 30—40 кілёмэтраў.

Усё гэта ня можа ня ўплываць на якасьць работы, садзейнічае цякучасьці кадраў, пераходу прапагандыстаў на іншую работу. Сельскія прапагандысты часта з-за сваёй перагружанасьці ня рыхтуюцца да заняткаў, зрываюць іх, а таксама часта перакідаюцца з месца на месца, што адбіваецца на вучобе.

Мая прапанова: сэктару прапаганды ЦК КП(б)Б неабходна пэрыодычна склікаць нарады райпрапагандыстаў, бо мы гаворым аб жывым опэратыўным кіраўніцтве, а яно зьяўляецца недастатковым. Нельга-ж так ставіць пытаньне, што прышоў у школу і кіруй. Ад пропагандыстаў маса патрабуе добрых ведаў, умелага падыходу, дзелавітасьці, яснасьці ў пастаноўцы справы, мэтодычных указаньняў, пэдагогічных ведаў. Справу маеш з дарослымі людзьмі і іх трэба зацікавіць у вучобе.

Трэба Культпропу ЦК КП(б)Б узмацніць жывое кіраўніцтва і інструктаж работы райпропагандыстаў, якія даволі часта пакінуты на саміх сябе, у той час, як да іх прад'яўляюцца вельмі вялікія патрабаваньні і яны нясуць вялікую адказнасьць за палітычны зьмест і пастаноўку мэтодыкі выкладаньня ў сетцы партасьветы.

(Крычаўскі раён). *Козьленко*

## *АД РЭДАКЦЫІ*

Зьмяшчаючы лісты тт. Дзінчукова і Козьленко, рэдакцыя заклікае і другіх раённых і вясковых пропагандыстаў і пропагандыстаў прадпрыемстваў дзяліцца на старонках журналу вопытам сваёй работы. Пажадана, каб гэтыя лісты былі больш канкрэтнымі. Прынамсі— калі таварыш піша, як ён рыхтуецца да заняткаў, дык мала напісаць, што я, моў, чытаю тую і тую літаратуру і пішу конспэкт. Цікава растлумачыць як ён складае конспэкт—чытае ўсю літаратуру адразу, а потым на памяць піша конспэкт, ці ўперад намячае плян, а да пунктаў пляну падбірае літаратуру, чытае і конспэктуе яе; або чытае, конспэктуе ўвесь матэрыял у парадку чытаньня, а потым ужо абдумвае плян і разьмяркоўвае запісанае; ці вядзецца запіс проста на аркушы паперы, ці ўжываюцца карткі для паасобных запісаў, выпісак і т. д.

Так-жа конкрэтна трэба расказаць і аб іншых бакох сваёй работы—як праводзіцца заняткі, гутаркі, як організавана самастойная работа слухачоў, як падрыхтоўваюцца слухачы да практычнай работы і т. д.

А то т. Дзінчукоў, напрыклад, піша, што ён у канцы заняткаў „падагульвае ўсю працу, увязваючы тэорыю з практыкай".

У чым-жа гэта сувязь выражаецца? Як ён падрыхтоўвае школу да кожнай гаспадарча-палітычнай кампаніі, аб гэтым таварыш ня піша.

Так-жа конкрэтна трэба пісаць і організатарам партвучобы: пропагандыстам, культпропам, работнікам друку. Як яны організуюць масавую работу вакол партасьветы, якія формы інструктажу і мэтодычнага кіраўніцтва ужываюцца, якімі мэтодамі вядуць работу пропсэмінары, партгабінэт і т. д. Асабліва трэба падрабязна апісваць (і абмяркоўваць) усякія *новыя* прыёмы і мэтоды работы.

А каб ня было занадта доўга, пішыце не аб усім адразу, а па адным якім-небудзь пытаньні.

---

## Ударніцтва і спаборніцтва на фронце партвучобы

Друкуючы самаабавязацельству Лагойскай пропгрупы, якая аб'яўляе сябе ўдарнай, рэдакцыя журналу „За ленінскую вучобу“ ставіць пытаньне перад усімі пропгрупамі, якія працуюць на тэрыторыі БССР:

*Што яны зрабілі, каб наладзіць сваю ўласную работу і работу сеткі партасьветы мэтодамі соцспаборніцтва і ўдарніцтва?*

### Самаабавязацельства Лагойскай пропгрупы

Лагойская пропгрупа ЦК КП(б), надаючы асаблівае значэньне баявым задачам партыі на давым этапе па ўзбраеньні партыйных і комсамольскіх мас, беспартыйных рабочых і колгаснага актыву перадавой рэволюцыйнай марксысцка-ленінскай тэорыяй і падрыхтоўцы кадраў для ўсіх галін партыйнай, савецкай, профэсіянальна-саюзнай работы — лічыць, што лепшым мэтодам для дасягненьня вышэйшых паказальнікаў пры вырашэньні гэтых баявых задач зьяўляецца ўкараненьне соцыялістычных форм працы, соцспаборніцтва і ўдарніцтва ва ўсёй рабоце пропгруп ЦК КП(б)Б. Таму Лагойская пропгрупа ЦК КП(б)Б яб'яўляе сябе ўдарнай і, выклікаючы на соцспаборніцтва прапгрупу ЦК КП(б)Б Плешчаніцкага раёну, бярэ на сябе наступныя абавязкі:

#### 1. У галіне масавай сеткі партасьветы

1) Ахапіць сеткай партасьветы ўсіх членаў і кандыдатаў партыі і ўсіх членаў ЛКСМ сеткай комсамольскай палітвучобы.

2) Організаваць пры апорных парт'ячэйках 3 вопытна-паказальныя школы (2 партыйных і адна комсамольская) партвучобы, і ўсе добрыя паказчыкі партвучобы пераносіць у другія школы, для чаго зьмяшчаць матэрыял у раённую газэту „Чырвоная Лагойшчына“.

3) Дабіцца, каб сетка партасьветы і комсамольскай палітвучобы працавала на працягу круглага году.

4) Лепш організаваць партвыхаваўчую работу з кандыдатамі і маладымі членамі КП(б)Б, прычым паказчыкамі якасьці работы з кандыдатамі павінна зьяўляцца:

а) сваячасовы іх перавод у члены КП(б)Б,

б) удзел кандыдатаў у партмасавай рабоце (вык. партнагрузак).

5) Уцягнуць у сетку партасьветы ня менш як 50 проц. рабочых і колгасьнікаў; паказчыкам якась-

ці работы з беспартыйнымі павінен зьяўляцца рост парторганізацыі за лік сеткі партасьветы.

6) Організаваць соцспаборніцтва і ўдарніцтва паміж школамі і ўнутры школ і рэгулярна асьвятляць работу школ і гурткоў як у райгазэце „Чырвоная Лагойшчына“, так і ў насьценгазэтах.

7) Організаваць лепшую масавую прапрацоўку партыйных рашэньняў, пленумаў, конфэрэнцый ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, мобілізуючы масы на іх практычнае ажыцьцяўленьне.

8) Змагаючыся за чыстату марксыцка-ленінскай тэорыі ў выкладаньні, вядучы рашучую барацьбу супроць скажэньняў марксызму-ленінізму, як у тэорыі, так і на практыцы, праводзіць ня менш як адзін раз у 3 месяцы конфэрэнцыі ўсіх кіраўнікоў партасьветы, ставячы на іх асноўныя пытаньні марксыцкаленінскай тэорыі і чарговых задач партыі.

## II. У галіне падрыхтоўкі кадраў

1) Падрыхтаваць і перападрыхтаваць праз 1—3-месячныя курсы з вызваленьнем ад працы работнікаў для нізавой партыйнасавецкай работы—130 ч.

а) пропагандыстаў—25 чал.

б) групавых і брыгадных агітатараў 40—чал.

в) работнікаў для савецкіх, раённых і сельск. устаноў 30 чал.

г) рэдактароў насьценгазэт 35 чал.

2) Падрыхтаваць праз каротка-тэрміновыя курсы (5—10-дзённыя) нізавых, партыйных і комсамольскіх работнікаў—120 чал. Якасным паказальнікам усіх відаў падрыхтоўкі работнікаў павінна зьяўляцца іх практычнае скарыстаньне па прызначэньні іх падрыхтоўкі на курсах.

3) Ахапіць тэорэтычнай вучобай праз пропсэмінар працуючых прапагандыстаў сеткі партасьветы—30 чал.

4) Ахапіць тэорэтычнай вучобай праз марксыцка-ленінскі сэмінар раённы партактыў—20 чал.

## III. Іншыя віды работ

1) Наладзіць сыстэматычную работу пры партгабінэце РК КП(б)Б па консультацыі працуючых пропагандыстаў і завочнікаў камвузу, СПШ і іншых вучэбных устаноў.

2) Аказваць дапамогу мэтодычнаму бюро пры партгабінэце ў складаньні заданьняў для сеткі партасьветы па програмных і бягучых пытаньнях.

3) Аказваць сыстэматычную дапамогу настаўнікам школ соцвыху ў выкладаньні грамадзкіх дысцыплін праз організацыю настаўніцкага сэмінару.

4) Організаваць сэмінары для кіраўнікоў ВСПШ, 6-мес. партшкол, кандыдацкіх школ, кіраўнікоў дэлегацкіх пунктаў, кіраўнікоў профгурткоў і для пропагандыстаў сеткі комсамольскай політвучобы.

5) Організаваць і правесьці 4 куставых і 1 раённую конфэрэнцыю слухачоў сеткі партасьветы.

6) Пры партгабінэце адзін раз у месяц організоўваць пастаноўку дакладаў і лекцый для нізавога раённага партыйнага і ком-

самольскага актыву на тэорэтычна палітычныя тэмы.

7) Для лепшай пастаноўкі работы ў піонэр-арганізацыі разам з РК ЛКСМ наладзіць рэгулярнае правядзеньне пры партгабінэце РК КП(б)Б нарад, з пастаноўкай на іх пытаньняў аб піонэррабоце ня менш як 1 раз у 2 месяцы.

8) Аказаць дапамогу раённым, грамадзкім організацыям у наладжваньні іх работы.

9) Ня менш як 1 раз у 3 месяцы праводзіць праверку выкананьня работы па соцспаборніцтве з абодвух бакоў спаборнічаючых, для чаго матэрыял аб выкананьні ўзятых на сябе па дагавору абавязкаў асьвятляць у журнале „За ленінскую вучобу“, орган Культпропу ЦК КП(б)Б.

10) Арбітрам просім быць рэдакцыю журналу „За ленінскую вучобу“ орган Культпропу ЦК КП(б)Б.

Лагойская пропгрупа ЦК КП(б)Б—Кіраўнік *Савіч*, члены 1) *Загаранскій*, 2) *Таранаў*.

---

*АД РЭДАКЦЫІ*

Зьмяшчаючы самаабавязацельствы Зарэцкай ячэйкі Плешчаніцкага раёну і ячэйкі Райспажыўсаюзу Лагойскага раёну па пытаньнях работы школ партасьветы, рэдакцыя просіць даслаць вынікі бліжэйшай праверкі выкананьня гэтых абавязацельстваў.

## ВЫКЛІК СЛУХАЧОЎ КАНДЫДАЦКАЙ ШКОЛЫ ЯЧЭЙКІ РАЙСПАЖЫЎСАЮЗУ ЛАГОЙСКАГА РАЁНУ

Надаючы вялікую важнасьць марксысцка-ленінскай тэорыі на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва, мы, слухачы кандыдацкай школы пры ячэйцы Райспажыўсаюзу, абавязваемся:

1. Рэгулярна, без спазьненьня, зьяўляцца на занняткі.

2. За ўвесь час вучобы—ніводнага прагулу бяз уважлівых прычын.

3. Уважліва адносіцца да заняткаў, добраякасна прапрацоўваць матэрыял, дабіцца максымуму прапрацоўкі.

4. Адзін раз у месяц організоўваць палітбой сярод слухачоў па пройдзеных тэмах, прэміруючы лепшых.

5. Разгарнуць соцспаборніцтва сярод слухачоў школы.

6. Кожнаму слухачу ўцягнуць у школу ня менш 3 чалавек беспартыйных да 1 сьнежня.

7. Ня менш аднаго разу ў месяц выпускаць насьценную газэту пры школе.

8. Зрабіць чырвоную і чорную дошку. Лепшых слухачоў як па якасьці прапрацаванага *матэрыялу*, так і па дысцыпліне, вывешваць на чырвоную дошку, а зрыўшчыкаў—на чорную.

9. Скласьці тройку па праверцы выкананьня дагавору.

10. Увесь ход работы школы асьвятляць у насьценнай газэце і ў „Чырвонай Лагойшчыне“.

Выклікаем на соцспаборніцтва кандыдацкую школу ячэйкі МТС.

Комісія: *Цьвік*, *Рыўкінд*, *Зьмітровіч*

# ДАГАВОР ПАРТШКОЛ ПРЫ ЗАРЭЦКАЙ ЯЧЭЙЦЫ ПЛЕШЧАНІЦКАГА РАЁНУ

Зарэцкая партыйная ячэйка падагуліла вынікі партвучобы за кастрычнік. Партыйны сход сумесна з слухачамі сеткі партасьветы констатаваў, што, ня гледзячы на некаторы зрух, партвучоба ўсё-ж праходзіць нездавальняюча, і прыняў рашучыя меры да ліквідацыі адставаньня ў справе аўладаньня марксысцка-ленінскай тэорыяй.

Саўпартшколы пры колгасах „Першае Мая“ і „Новае жыцьцё“ заключылі паміж сабой умовы на соцспаборніцтва.

Дні, вызначаныя РК КП(б)Б для партвучобы, скарыстоўваць толькі для гэтай мэты.

Для падрыхтоўкі кадраў прапагандыстаў пры колгасе „Першае Мая“ організаваны шасьцімесячныя курсы партактыву.

За навучальны год пры партшколах правесьці кароткатэрміновыя курсы загадчыкаў вытворчых вучасткаў, брыгадзіраў, паляводаў, вучотчыкаў, сьвінаводаў, конюхаў, даглядчыкаў жывёлы.

Пры кожнай школе адзін раз у два тыдні выпускаць насьценгазэты, цэнтральнай задачай якіх паставіць барацьбу за якасьць выкладаньня. Організаваць чорныя і чырвоныя дошкі.

У канцы кожнага месяца праводзіць конфэрэнцыі слухачоў, на якіх падагульваць вынікі работы школы, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на цеснае ўвязваньне тэорыі з практыкай.

Арбітрам абраць раённую газэту „Барацьбіт за колектывізацыю“ і бюро ячэйкі.

Правесьці праверку выкананьня ўмовы 6 сьнежня, 16 студзеня, 16 красавіка і ў канцы навучальнага году.

Бюро партячэйкі:
*Шабан, Вайцяхоўскі, Негурэнка, Казлоў.*

Кіраўнікі партшкол:
*Шабан, Астапенка, Дзямішкевіч* і *Вылітак*

48 подпісаў слухачоў.

## Вопыт месц

# МАРКСЫСЦКА-ЛЕНІНСКАЕ ВЫХАВАНЬНЕ ПАТРАБУЕ КОНКРЭТНАГА ОПЭРАТЫЎНАГА КІРАЎНІЦТВА

*(Па матэрыялах агляду Лёзьненскай парторганізацыі)*

Лёзьненская парторганізацыя пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б і Райкому партыі ў выніку мобілізацыі рабочых, колгасьнікаў і працоўных мас сялянства дабіліся значных посьпехаў на фронце соцбудаўніцтва. Важнейшыя гаспадарча-палітычныя кампаніі—вясеньняя сяўба і ўборка—выкананы. Бульба пролетарскім цэнтрам здана ў тэрмін. За апошні год пасеўная плошча пад ільном вырасла на 50 проц.

Бязумоўна, парторганізацыя магла-б мець больш дасягненьняў у правядзеньні гаспадарча-палітычных задач, калі-б справа марксысцка-ленінскага выхаваньня была пастаўлена на належную вышыню.

Між тым, у раёне зусім нездавальняюча пастаўлена марксысцка-ленінскае выхаваньне, асабліва маладых членаў і кандыдатаў КП(б)Б у сыстэме партасьветы. З боку паасобных партячэек наглядаецца опортуністычная недаацэнка партвучобы.

Па зводках Культпропу райкому па раёне арганізавана 50 партшкол, 19 партгурткоў (па тыпу 6-мес. ВСПШ), вячэрняя саўпартшкола (гадавая) і сэмінар райпартактыву. Здаецца ўсё ў парадку: школы арганізаваны па ўсіх партячэйках, партвучобай ахоплены члены і кандыдаты партыі і колгасны актыў. Але на справе зусім іншае становішча. Па-першае, зводкі аб укомплектаваньні партшкол у Райкоме атрыманы ад 40 проц. партшкол, некаторыя партячэйкі толькі што прыступілі да вучобы, а частка яшчэ і не распачала заняткаў партячэйкі: МТС, Добрамысьленская, Высочанская і Калышская.

У раёне зусім не організаваны кандыдацкія школы і гэта ў той час, калі склад парторганізацыі пераважна малады, 60 проц. кандыдатаў. Але нават і там, дзе партшколы працуюць, слабае наведваньне (50—60 проц.), няглыбокая прапрацоўка матэрыялу і слабая актыўнасьць слухачоў. Усё гэта тлумачыцца тым, што парторганізацыя недастаткова праводзіць у жыцьцё рашэньне ліпеньскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б „аб перабудове і разгортваньні організацыйна-партыйнай, масавай і выхаваўчай работы партыі".

З кандыдацкім складам ніякай работы не вядзецца, партдзень

не праводзіцца, шмат кандыдатаў ня маюць ніякай партнагрузкі.

З боку паасобных ячэек няма праверкі выкананьня партнагрузак кандыдатаў, ня ўсе кандыдаты ўцягнуты ў вучобу.

Крынкаўская міжколгасная партячэйка замест выхаваньня кандыдатаў і дапамогі ім, выносіла масавыя партспагнаньні (напрыклад 31 ліпеня на агульным сходзе партячэйкі ўсім 10 кандыдатам вынесена партспагнаньне).

Усё гэта вынікі таго, што з боку райкому ня было *конкрэтнага опэратыўнага кіраўніцтва* партыйным выхаваньнем маладых членаў і кандыдатаў партыі.

Бюро райкому толькі адзін раз заслухала даклад аб разгортваньні сеткі партасьветы 1/IX— і на гэтым супакоілася.

Ніякай масава-растлумачальнай працы аб значэньні марксысцка-ленінскага выхаваньня праведзена ня было.

Паасобныя партячэйкі на бюро райкому не заслухоўваліся. Раённы друк „Ленінскі сьцяг“, які павінен быў мобілізаваць партыйцаў, комсамольцаў і беспартыйны колгасны актыў вакол конкрэтных задач партыйнай асьветы не зьмясьціў ніводнай заметкі, ніадным словам не сказаў аб гэтай важнейшай задачы партыі. Опортуністычная недаацэнка справы партасьветы з боку раённага друку сьведчыць аб нездавальняючым становішчы кіраўніцтва партасьветай у раёне. Друк да гэтага часу не мобілізаваў партарганізацыю на прарывы ў марксысцка-ленінскім выхаваньні.

Важнейшы вучастак партасьветы—работа з пропагандыстамі ў раёне пастаўлена зусім нездавальняюча. Уліку пропагандыстаў няма.

Пропагандысты ў большасьці, зьяўляюцца малападрыхтаванымі, найчасьцей кандыдаты партыі, якія патрабуюць большай дапамогі, большай увагі з боку райкому партыі.

Пропагандысты Веляшкоўскай парт'ячэйкі т. т. *Пчолка* і *Матвеёнак*—кандыдаты партыі—ніякіх курсаў падрыхтоўкі не праходзілі. Мэтодычнай дапамогі з боку партгабінэту ніякай не атрымліваюць.

Ні програм, ні падручнікаў пры аглядзе ў партшколах не аказалася і гэта ў той час, калі для ўсіх партячэек у раённым партгабінэце ляжала шмат літаратуры, напрыклад: усе блёкноты агітатара, пачынаючы з № 1 і канчая 9—10, програмы кандыдацкіх школ, мэтоддапаможнікі аб збожжазагатоўках, аб перабудове партмасавай работы і інш. вучэбнікі для кандыдацкіх школ: „Два сьветы, дзьве сыстэмы“, „Комуністычная партыя—авангард рабочай клясы“, усе нумары часопісу „За ленінскую вучобу“ і т. д.

Нават рэзолюцыі Ліпеньскага Пленуму для партячэек не разасланы.

Замест сапраўднай дапамогі пропагандыстам партгабінэт займаўся замаражваньнем дапаможнікаў і літаратуры для сеткі партасьветы, у той час, калі ў гэтым адчувалася вострая патрэбнасьць на мясцох, у партячэйках, партшколах.

Яшчэ горш абстаіць справа з палітвучобай комсамолу.

Комсамольская організацыя налічвае 1200 чал. Самастойнай

комсамольскай політсеткі яшчэ не арганізавана, праграм няма.

Нам. культпропу т. *Барташ* сказаў Апо комсамолу, што не патрэбна арганізоўваць самастойнай комсамольскай політсеткі. РК і партячэйкі ніякай дапамогі комсамолу ў разгортваньні комсамольскай політвучобы не аказваюць.

Райкому партыі неабходна заразжа ўзмацніць сваё кіраўніцтва ўсімі зьвеньнямі, якія непасрэдна займаюцца партасьветай: культпропам, партгабінэтам, партячэйкамі, пропагандыстамі, друкам. Трэба мець на ўвазе, „што партыйнае выхаваньне зьяўляецца адным з важнейшых зьвеньняў партыйнай работы, што марксысцка-ленінскае выхаваньне—гэта справа ўсёй арганізацыі, а ня толькі культпропу“ (ліпеньскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б), РК КП(б)Б павінен наладзіць сыстэматычнае опэратыўнае кіраўніцтва парт-вучобай, заслухоўваючы на бюро РК справаздачы партячэек аб марксысцка-ленінскім выхаваньні, арганізаваць інструктарска-пропагандысцкую групу пры культпропе РК. Партгабінэт павінен перабудаваць сваю работу ў напрамку сваячасовага абслугоўваньня сеткі партасьветы мэтодычнай дапамогай, арганізуючы куставыя і раённыя сэмінары пропагандыстаў, дабіваючыся сыстэматычнай працы, і забясьпечыць кіраўніцтва сэмінарамі лепшымі работнікамі РК.

Неабходна арганізаваць кандыдацкія партшколы і школы ленінізму, ахапіць вучобай усіх кандыдатаў, маладых членаў партыі, комсамол і беспартыйны колгасны актыў. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на падбор пропагандыстаў, уцягваючы ў пропагандысцкую работу вытрыманых комуністаў, маючых вопыт партыйнай работы. Неабходна дапамагчы комсамольскай арганізацыі ў разгортваньні політвучобы, вылучыўшы для гэтага пропагандыстаў.

---

# Праграмы, заданьні, мэтодраспрацоўкі

## УСІМ РК і ГК КП(б)Б

Культпроп ЦК КП(б)Б прапануе зараз-жа прапрацаваць ва ўсёй сетцы партыйна-масавай асьветы гораду і вёскі „Дадатак да праграмы кандыдацкіх і партыйных школ культпропу ЦК УсеКП(б)“ зьмешчаны ў „Правде“ ад 18/XII—32 г., і адначасова лічыць неабходным указаць наступнае:

Прапрацоўка тэм: 1) „Абавязкі колгасаў і працоўнага сялянства перад савецкай дзяржавай“ і 2) „Клясавая барацьба на вёсцы і абавязкі ячэек с/с“,— павінна праходзіць у самай цеснай і неразрыўнай сувязі з абстаноўкай клясавай барацьбы ў БССР у даны момант.

Неабходна прапрацаваць пытаньне аб тым, што ў радзе раёнаў БССР мы маем арганізацыю контррэволюцыйнага супраціўленьня выкананьню дзяржаўных загатовак з боку кулака і арганізацыю саботажу па зрыву загатовак з боку перараджэнчых элемэнтаў партыі; што гніла-лібэральныя адносіны з боку цэнтральных і мясцовых партыйных і савецкіх організацый да выкананьня дзяржаўных загатовак, а таксама да перараджэнчых элемэнтаў у партыі, стварылі ганебнае адставаньне ходу выкананьня сельска-гаспадарчых загатовак па БССР.

Неабходна мобілізаваць увагу слухачоў партшкол на тое, што ўмовай ліквідацыі гэтага ганебнага адставаньня зьяўляецца прыняцьце самых рашучых і бязьлітасных мер пролетарскай дыктатуры супроць кулакоў, спэкулянтаў і падкулачнікаў, якія зрываюць загатоўкі, прыняцьці рашучых і неадкладных мер у барацьбе з гніла-перараджэнчымі элемэнтамі партыі, якія прыкрываюць сваю антысавецкую работу славеснымі дэклярацыйнымі адносінамі да правядзеньня генэральнай лініі партыі.

Неабходна мобілізаваць слухачоў партшкол на разгортваньне бальшавіцкай самакрытыкі, ускрыцьцё на яе падставе опортуністычных перараджэнчых буржуазна-нацыяналістычных элемэнтаў, якія вядуць пад прыкрыцьцём партбілету антысавецкую работу і саботуюць загатоўкі, скрозь і ўсюды прыкрываючыся фальшыва-нацыянальным сьцягам.

Рашэньні сьнежаньскага плєнуму ЦК КП(б)Б, асабліва аб загатоўках, пастанова СНК БССР і ЦК КП(б)Б ад 22 сьнежня „Аб мерах узьдзейнічаньня ў адносінах раёнаў, сыстэматычна і злосна ня выконваючых плянаў дзяржаўных загатовак“ („Зьвязда“ ад 23 сьнежня), ра-

шэньне бюро ЦК КП(б)Б, прэзыдыуму ЦКК і СНК БССР па дакладзе т.т. Гікало і Галадзеда—„Аб рашэньнях ЦК УсеКП(б) аб ходзе загатовак на Беларусі“ („Зьвязда“ ад 24 сьнежня), даклад т. Гікала на сходзе Менскага партактыву („Зьвязда“ ад 25/XII—32 г.) з бальшавіцкай чоткасьцю ставяць пытаньне аб сваясаблівасьцях клясавай барацьбы на сучасным этапе па БССР, паказваюць, як партыя, пад кіраўніцвам ленінскага ЦК і яе правадыра т. Сталіна, даючы жорсткі і бязьлітасны адпор клясаваму ворагу, ачышчаючы свае рады ад перараджэнчых опортуністычных элемэнтаў, няўхільна ажыцьцяўляе свой генэральны плян пабудовы соцыялізму.

Партыйныя школы побач з іншымі формамі марксысцка-ленінскага выхаваньня, павінны мобілізаваць партыйцаў, комсамольцаў, беспартыйных рабочых, колгасьнікаў на самаадданую і непрымірымую барацьбу за генэральную лінію партыі, супроць клясавых ворагаў, супроць зьлейшага ворага соцыялістычнага будаўніцтва—кулацтва і яго агентуры.

Культпроп ЦК прапануе для прапрацоўкі гэтых тэм правесьці сэмінар прапагандыстаў.

Адначасова дасылаем вам папраўкі да програмы кандыдацкіх школ гораду і вёскі і пачатковых школ па вывучэньні ленінізму, зьмешчаныя ў журнале „Коммунистическая Революция“ № 21.

Культпроп ЦК КП(б)Б

## ДАДАТАК ДА „ПРОГРАМЫ КАНДЫДАЦКІХ“ ШКОЛ ДЛЯ ВЁСКІ“.

*АД КУЛЬТПРОПУ ЦК УсеКП(б).*

Пры правядзеньні заняткаў у кандыдацкіх партыйных школах у вёсцы мясцовыя партыйныя організацыі павінны дадаткова да „Програмы кандыдацкіх школ для вёскі“, якая разаслана Культпропам ЦК УсеКП(б) увосень 1932 г., прапрацаваць наступныя тэмы:

1. Дадатак першы—да першай тэмы „Два сьветы — дзьве сыстэмы“.

2. Дадатак другі — прапрацаваць пасьля другой тэмы „Праз дыктатуру пролетарыяту да комунізму“ у 2—3 заняткі.

*Культпроп ЦК УсеКП(б).*

### Дадатак да 1-й тэмы

Умацаваньне Чырвонай арміі—кроўная справа рабочых, колгасьнікаў і працоўных сялян-аднаасобнікаў. Чырвоная армія—армія пролетарскай дыктатуры, зброя барацьбы за соцыялізм. Чырвоная армія—узброены саюз рабочай клясы з працоўным сялянствам, ахоўвае мірную працу рабочых і працоўных сялян СССР. Чырвоная армія—школа палітычнага і гаспадарчага выхаваньня працоўных мас.

## ПРАПРАЦАВАЦЬ САМАСТОЙНАЙ ТЭМАЙ У 2—3 ЗАНЯТКІ НАСТУПНЫЯ ПЫТАНЬНІ.

### I. Становішча сялянства ў краінах капіталу і ў СССР.

Капіталістычны шлях разьвіцьця сельскай гаспадаркі—шлях разарэньня, зганеньня, палітычнага бяспраўя дзесяткаў мільёнаў сялян і ўзбагачэньня кучкі кулакоў. Становішча сялянства ў царскай Расіі (малазямельле, раздробненасьць, цяжар падаткаў—падаці, галеча, самавольства памешчыка, ураднік, амаль пагалоўная няпісьменнасьць і т. д). Масавае разарэньне дробнага і сярэдняга сялянства ў Эўропе і ПАЗШ у сувязі з сучасным сусьветным экономічным і аграрным крызісам.

Дыктатура пролетарыяту — адзіны выхад для працоўных сялян з капіталістычнага і памешчыцкага рабства. Дыктатура пролетарыяту ў СССР—улада рабочай клясы—адкрыла новы шлях разьвіцьця для працоўнага сялянства—шлях соцыялістычны. „Колгасы зьяўляюцца адзіным сродкам, які дае сялянам выхад з галечы і цемры" (Сталін).

### II. Абавязкі колгасаў, працоўнага сялянства перад савецкай дзяржавай.

Вялізарная дапамога рабоча-сялянскага ўраду працоўным сялянам у справе падняцьця сельскай гаспадаркі (трактары, комбайны, насенныя і харчовыя пазычкі, крэдыты, мэліорацыя і інш). І абавязак сваячасовага выкананьня колгасамі, аднаасобнікамі, ускладзеных на іх дзяржавай абавязацельстваў (хлебазагатоўкі, сяўба, мясазагатоўкі, загатоўкі тэхнічных культур, выкананьне фінансавых абавязацельстваў). Сваячасовая задача (продаж) хлеба дзяржаве—самы першы абавязак колгасаў, аднаасобнікаў. „Барацьба за хлеб—барацьба за соцыялізм" (Ленін). Народна-гаспадарчае значэньне хлебазагатовак. Зрыў хлебазагатовак—зрыў снабжэньня рабочай клясы, Чырвонай арміі, соцыялістычнага будаўніцтва. Хлебазагатоўкі — самы абвостраны фронт клясавай барацьбы. Барацьба кулака супроць хлебазагатовак (шкодніцтва ў пэрыод уборкі, пакіданьне хлеба на полі ня ўбраным, раскраданьне і ўтойваньне хлеба ад дзяржавы, затрымка абмалоту, паломка машын і т. д.). Пасьпяховае правядзеньне хлебазагатовак—баявая задача партыйных, комсамольскіх, савецкіх організацый вёскі. Бязьлітасная барацьба з кулацкім лёзунгам: спачатку сабе потым дзяржаве. Хлебазагатоўкі—важнейшая ўмова організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў. Датэрміновае выкананьне пляну хлебазагатовак колгасьнікамі Маскоўскай вобласьці і ў Татарыі—прыклад для ўсіх рэспублік і абласьцей як трэба змагацца за хлеб, за выкананьне сваіх абавязацельстваў перад пролетарскай дзяржавай. Пастанова СНК СССР і ЦК УсеКП(б) ад 2 сьнежня 1932 г.

Павышэньне ўраджайнасьці соцыялістычных палёў—асноўнае зьвяно, якое забясьпечвае ўздым саўгаснай і колгаснай вытворчасьці. Пастанова СНК СССР і ЦК УсеКП(б) „Аб мерапрыем-

ствах па павышэньні ўраджайнасьці“ ад 29 верасьня 1932 г. Кулацкае супраціўленьне павышэньню ўраджайнасьці соцыялістычных палёў (кулацкі лёзунг: зацяжка сяўбы, патрабаваньне насеньня ад дзяржавы, сеяць толькі для харчовых патрэб колгасу і аднаасобнікаў, засьмечваньне палёў, дрэнная апрацоўка палёў, шкодніцкія адносіны да машын і інш.).

Бальшавіцкая барацьба за падрыхтоўку і правядзеньне веснавой сяўбы. Веснавая сяўба — гаспадарча-палітычная кампанія, патрабуючая максымальнага напружаньня сіл партыйных, савецкіх, комсамольскіх організацый вёскі, сіл колгасьнікаў і аднаасобнікаў на выкананьне ўтэрмін плянаў сяўбы. Практычныя мерапрыемствы па павышэньні ўраджайнасьці, правільны севаабарот, угнойваньне палёў, ачыстка і пратручваньне насеньня, зьнішчэньне пустазельля, затрымка сьнегу на палёх. Комуністы, колгасьнікі-актывісты—організатары барацьбы за каня. Сваячасовы добраякасны рамонт машын і сельска-гаспадарчага інвэнтару—баявая задача МТС, саўгасаў і колгасаў.

Найстражэйшая ахова грамадзкай (соцыялістычнай) уласнасьці. Соцыялістычная ўласнасьць — аснова нашай дзяржавы—зьяўляецца сьвяшчэннай і недатыкальнай. Найсуровейшая кара ў адносінах усіх, хто раскрадае дзяржаўнае і колгаснае дабро. Беражлівыя адносіны да трактара, сельскагаспадарчых машын, да каня—практычная барацьба за ахову грамадзкай (соцыялістычнай) уласнасьці, за выхаваньне колгасьнікаў у духу соцыялізму.

## III. Клясавая барацьба ў вёсцы і абавязкі партыйных ячэек і сельсаветаў.

Перавыхаваньне колгасьніка—рашаючая задача будаўніцтва соцыялізму. „Прыдзецца яшчэ шмат папрацаваць над тым, каб перарабіць селяніна-колгасьніка, выправіць яго індывідуалістычную псыхолёгію і зрабіць з яго сапраўднага працаўніка соцыялістычнага грамадзтва“ (Сталін).

XVII партконфэрэнцыя аб няўнікнёнасьці абвастрэньня клясавай барацьбы ў паасобных раёнах, у паасобныя моманты і на паасобных вучастках соцыялістычнай будоўлі. Неабходнасьць барацьбы з кулацкімі „тэорыямі“ правых опортуністаў аб плаўным разьвіцьці і самацёку ў соцыялістычным будаўніцтве. Соцыялістычнае наступленьне выклікае жорсткае супраціўленьне клясавага ворага—кулацтва, якое зьяўляецца апошняй апорай капіталістычнай эксплёатацыі ў нашай краіне. Новыя манэўры кулака—стаўка на разлажэньне колгасу знутры, пранікненьне ў колгас, у колгасны апарат (рахункаводы, кладаўшчыкі і інш.), у саветы і нават у сельскія партыйныя ячэйкі. Кулацкая барацьба за падрыў колгаснай вытворчасьці, аслабленьне дысцыпліны, раскраданьне ўраджаю, зрыў хлебазагатовак, шкодніцкія адносіны да інвэнтару і т. д. Аслабленьне клясавай пільнасьці раду партыйных ячэек сельсаветаў, комсамольскіх організацый Кубані. Перараджэньне і адкрыты пераход паасобных „комуністаў“ на бок кулака.

Умацававаньне партыйных організацый у вёсцы — рашаючая

задача сучаснай барацьбы за соцыялізм. Непрымірымая барацьба з правым опортунізмам — галоўнай небясьпекай на даным этапе і „лявацкімі“ загібамі. Бязьлітасная барацьба з апортуністамі ўсякага роду, ныцікамі, малаверамі, прымірэнцамі да ўхілаў, з двурушнікамі — яўнымі пасобнікамі кулака на вёсцы, за абавязковае выкананьне дзяржаўных заданьняў у тэрмін для таго, каб канчаткова зламаць кулацкае супраціўленьне і падолець труднасьці соцыялістычнага будаўніцтва.

Якаснае палепшаньне складу партыйных організацый—важнейшая задача партыі. Значэньне пастановы ЦК УсеКП(б) ад 10/XII 32 г. аб правядзеньні чысткі партыі ў 1933 г. у справе павышэньня баяздольнасьці комуністаў і якаснага палепшаньня складу партыйных організацый.

На даным этапе барацьба за хлеб, за ўмацаваньне колгасаў, супроць кулака, опортуністаў, лодыра, злодзея, жуліка—асноўны абавязак кожнага комуніста і кандыдата партыі ў вёсцы.

Падбор, падрыхтоўка кадраў для колгасна-саўгаснай вёскі— найвастрэйшы вучастак клясавай барацьбы. Падрыхтоўка і вылучэньне кадраў, „якія маглі-б забясьпечыць бязумоўнае выкананьне ўказаньняў партыі, якія ня дрэйфілі-б перад труднасьцямі і якія маглі-б па бальшавіцку орыентавацца ў абстаноўцы, мобілізуючы масы на барацьбу з замысламі і вылазкамі клясавага ворага“ (Постышаў).

Клясавая пільнасьць, пролетарская загартоўка, шырокі політычны кругазор, веданьне тэхнікі сельскай гаспадаркі — асноўныя якасьці партыйнага і савецкага работніка вёскі ў цяперашні час.

МТС — тэхніка-экономічны і політычны цэнтр вёскі. Роля і значэньне МТС у соцыялістычным перавыхаваньні колгасьнікаў, выхаваньні комуністаў вёскі, роля МТС у організацыі колгасных мас на барацьбу з кулацтвам. Асобая задача партыйных організацый МТС—вырошчваньне і выхаваньне колгаснага актыву.

Барацьба за ўмацаваньне сельсаветаў—органаў пролетарскай дыктатуры ў вёсцы, праваднікоў гаспадарчай і політычнай лініі партыі ў вёсцы. Організацыя кулацкімі элемэнтамі саботажу па зрыву хлебазагатовак на Кубані (Паўночны Каўказ), як вынік засьмечанасьці сельсаветаў опортуністамі і кляса-варожымі элемэнтамі.

Неабходнасьць узмацненьня рэволюцыйнай законнасьці, барацьбы з усякага роду перагібамі і бюрократызмам у практыцы мясцовых органаў савецкай улады, рашучага адсячэньня ўсіх опортуністычных і кулацкіх элемэнтаў ад сельсаветаў. Неабходнасьць барацьбы сельсаветаў за акуратнае і сваячасовае выкананьне колгасамі і працоўнымі аднаасобнікамі іх абавязацельстваў перад пролетарскай дзяржавай. Кіруючым прынцыпам у рабоце сельсаветаў павінна быць, каб „лёзунг дыктатуры пролетарыяту не ганьбіўся практыкай кіселяпадобнага стану пролетарскай улады“ (Ленін). Сельсавет, тварам да колектывізацыі, да колгаснай вытворчасьці, на барацьбу з кулаком.

„Правда“ ад 18 сьнежня 1932 г.

## АД СЭКТАРУ ПРОПАГАНДЫ КУЛЬТПРОПУ ЦК КП(б)Б

Згодна ўказаньняў сэктару пропаганды культпропу ЦК УсеКП(б) адносна паправак да програм кандыдацкіх школ і пачатковых школ па вывучэньні ленінізму,—Культпроп ЦК КП(б)Б просіць у беларускім выданьні гэтых програм выправіць:

**1. У „Програме кандыдацкай школы для гораду“**

Стар. 7, радок 9 зьнізу, замест слова „плянавага“ трэба чытаць „плаўнага“.

Стар. 15, радок 32 зьверху, замест слоў: „аб несумяшчальнасьці пропаганды погляду“, трэба чытаць: „аб несумяшчальнасьці поглядаў“

Стар. 17, радок 21 зьверху, замест: „як практычны плян індустрыялізацыі“, трэба чытаць: „плян соцыялістычнага будаўніцтва“.

**2. У „Програме кандыдацкай школы для вёскі“**

Стар. 13, радок 13 зьнізу, замест слоў: „несумяшчальнасьці пропаганды поглядаў“, трэба чытаць: „несумяшчальнасьці поглядаў.

Стар. 14, радок 2 зьнізу, замест слоў: „практычны плян соцыялістычнай індустрыялізацыі“ трэба чытаць: „плян соцыялістычнага будаўніцтва“.

**3. У Програме пачатковых школ па вывучэньні ленінізму“**

Стар. 12, радок 23 зьверху, замест слоў: „прынцып падпарадкаваньня меншасьці большасьці, прынцып кіраўніцтва партыйнай работай з цэнтру“, трэба чытаць: „прынцып падпарадкаваньня ніжэйстаячых організацый вышэйстаячым, выбарнасьць усіх кіруючых органаў партыі“.

Уключыць на 33-й старонцы, пасьля 23-га радка зьверху, перад словамі: „Сучасная міжнародная абстаноўка“—„XII пленум ВККІ аб скончэньні адноснай стабілізацыі капіталізму“ „надышоў канец адноснай стабілізацыі капіталізму. Але яшчэ няма непасрэднай рэволюцыйнай сытуацыі ў важнейшых і рашаючых капіталістычных краінах.

А на старонцы 32, радок 1 зьверху, словы: „Хуткае нарастаньне рэволюцыйнага крызісу ва ўсіх краінах пры адсутнасьці аднак непасрэднай рэволюцыйнай сутыацыі як у міжнародным маштабе, так і ў паасобных краінах“,—выкрэсьліць.

---


Рэдколегія: КЛІМАЎ, ОРЛІС, ГУРВІЧ, КУРЦІК, ВІЛЬЧАК, ГРЫЦКЕВІЧ

Адказны рэдактар ЯГОРАЎ

